№ 23 (139). Вільня, 8 Лістапада 1938 г. Год X.




# Самаўрад і яго значэньне для Беларусаў

*Ідэя самаўраду ў сучасным значэньні паўстала на пераломе 18 і 19 стаг., калі Вялікая Француская Рэвалюцыя кінула кліч вольнасьці, роўнасьці і братэрства. Ністожачы манархістычна-цэнтралістычную ўладу, цьвет тагочаснае інтэлігенцыі дайшоў да перакананьня, што лепшы будзе лад і дабрабыт, калі ўладу на мясцох будуць выконываць мясцовыя людзі. Галоўным імкненьнем піонэраў самаўраду было тое, каб парадку разьвіцьця дабрабыту пільнаваў не паліцыянт, ці які-небудзь урадавец прысланы ад цэнтральнае ўлады, але мясцовае грамадзянства, ці йнакш — свае людзі. Такім чынам аблягчаецца агульна-гаспадарственны адміністрацыйны апарат і жыцьцё грамадзян становіцца лягчэйшым, больш прадуктыўным, грамадзкім і дагаднейшым для разьвіцьця дабрабыту ў краі, бо людзі на мясцох лепш разумеюць мясцовыя патрэбы. Адначасна даецца гэтым магчымасьць ініцыятывы шырокім масам ў вырашаньні іхніх супольных справаў.*

*Самаўрады бываюць рознаякія (тэрыторыяльны, гаспадарчы, нацыянальны і інш.). Галоўным аднак з іх ёсьць самаўрад тэрыторыяльны, каторы і будзем тут разглядаць.*

*Тэорэтычна бяручы самаўрад ёсьць здэцэнтралізаванай гаспадарственнай адміністрацыяй, выконванай мясцовымі органамі, непадлягаючы іншым органам і самастойнай у граніцах закону агульнага праўнага парадку. Самаўрад ёсьць інстытуцыяй праўна-палітычнай застасаванай да практычных патрэбаў грамадзянства і гаспадарства.*

*Паводле абавязуючага цяпер у Польскай Рэспубліцы закону тэрыторыяльны самаўрад на вёсцы мае тры ступені: 1. грамадзкія (вясковыя) рады на чале з солтысам, 2. валасная (гмінная) рада на чале з старшынёй (войтам) і 3. паветавая рада (да нядаўна Соймік) і староста, каторыя з боку гаспадарства (дзяржавы) выконваюць кантрольна-наглядную ўладу.*

*Воласьці пераважна абыймаюць абшар ад 375 кв. кл. да 80 кв. клм. з насельніцтвам ад 14.000 да 6.000 асоб. Кожная воласьць ёсьць самаўрадавай (самакіруючай) тэрыторыяльнай адзінкай з правамі праўнае асобы. Валасная рада: 1. кіруе маемасьцяй, даходамі і расходамі воласьці, 2. праводзіць і ўтрымлівае гмінныя дарогі, 3. закладае і ўтрымлівае прытулкі, 4. да яе належаць і справы электрыфікацыі, каналізацыі, вадаправодаў і інш., 5. падтрымлівае землеробства, промысел. рамясло, коопэрацыю, 6. пашырае духовую культуру, закладаючы бібліятэкі, чытальні, школы, народныя дамы і г. д.*

*Вясковая (грамадзкая) рада кіруе: маемасьцяй і даходамі грамады і яе грамадзкімі справамі маючымі характар культурна-гаспадарскі, супрацоўнічаючы з воласьцяй.*

*З гэтага кароткага агляду вясковага самаўраду можна ўжо сабе прадставіць, якая сапраўды вялікая роля і значэньне самаўраду. І дзеля таго беларусы павінны на самаўрад, на выбары ў валасныя (гмінныя) рады, а перад усім на выбары ў рады грамадзкія і на выбары салтысоў зьвярнуць вялікую ўвагу. У гэтых усіх органах мусяць быць у нашым Краю мясцовыя беларускія людзі.*

*Праз самаўрад мы можам дамагацца беларускае школы, закладаць народныя дамы, бібліятэкі і ўводзіць у іх беларускія кніжкі і газэты, памагаць незаможным але здольным беларускім вучням і студэнтам, падтрымліваць разьвіцьцё мясцовага промыслу і коопэрацыю. Словам, праз самаўрад мы можам рабіць вялікую культурную і гаспадарчую работу.*

*Не адзін на гэта можа гляне вельмі крытычна, бо ўсю дзейнасьць самаўраду і самыя выбары кантралюе адміністрацыя і можа касаваць пастановы радаў, караць і звальняць солтысаў і рады развязваць. Так, але адміністрацыя рабіць гэта можа тады, калі ёсьць нейкая нефармальнасьць ці праступак з боку рады ці солтыса. Усю-ж вышэй пералічаную дзейнасьць можна і трэба праводзіць у нас згодна з абавязуючымі законамі і Польскай Канстытуцыяй, каторая пазваляе нам дамагацца і закладаць і беларускія школы, і коопэратывы, і народныя дамы, і бібліятэкі, пашыраць культуру, паляпшаць свае гаспадаркі, рамясло, промысел і г. д.*

*Бяручы пад увагу ўсё вышэй сказанае, а такжа тое, што самаўрад зьяўляецца вялікай школай грамадзкага ўзгадаваньня, беларусы ўсімі сіламі павінны імкнуцца да таго, каб быць у самаўрадзе і адыгрываць належную ролю. Трэба выбіраць людзей разьвітых і стойкіх беларусаў, каторыя патрапілі-б бараніць інтарэсаў мясцовых жыхараў і працаваць для дабрабыту Краю. Прыпамінаем аб гэтым цяпер, калі хутка будуць адбывацца самаўрадавыя выбары, да якіх ужо трэба прыгатаўляцца.*

*Я. Н.*

# Хочам вучыцца пабеларуску

## Як і з чаго здабываць беларускую асьвету

„Па ўсей Рэчыпаспалітай моладзь пайшла ў школы здабываць сьвятло і навуку. Польская, жыдоўская, нямецкая моладзь пайшла ў свае родныя школы, а мы беларусы йдзём найчасьцей у школы, дзе вучаць папольску. Але мы хочам вучыцца пабеларуску. Мы нездаволіваемся тым толькі, што нас вучаць у школе, хочам пазнаць і беларускую грамату і свой край і сваю беларускую гісторыю і літаратуру. Моладзь школьная і пазашкольная просіць Паважаную Рэдакцыю „Шляху Моладзі“ парадзіць, як найлепш праводзіць самаадукацыю. Якія былі-б найлепшыя падручнікі: 1 дзеля першае навукі чытаньня і пісаньня пабеларуску, 2. дзеля далейшага разьвіцьця чытаньня і пісаньня, 3. дзе можна знайсьці весткі аб гісторыі і геаграфіі Беларусі.“

*Навасельская моладзь*
Нісьцібаўская валасьць, Ваўкавыскі пав.

Гэткае пісьмо атрымала рэд. „Шляху Моладзі“ 25.X.38 ад Беларускае моладзі з Ваўкавыскага пав. Такія і падобныя пісьмы прыходзяць із іншых куткоў нашага Краю, бо туга, імкненьне да сьвятла, да навукі ў роднай беларускай мове сярод моладзі ёсьць вялікае. Пастараемся тады ўсім адказаць.

Вось-жа самаадукацыю найлепш праводзіць групамі. — Трэба сабірацца па некалькі асоб (ня болей 9). Чытаць кніжкі, расказваць іх адзін другому, абгаворваць рэчы незразумелыя, а ў разе патрэбы выражаць іх пры помачы людзей граматных. Пісаць дыхтоўкі, спраўджваць — пытаць — ведуз таго, што ўжо было разглядана, вывучывана і чытаць як найбольш кніжак, каторыя найлягчэй такжа купляць супольна. Добра было-б тварыць супольныя прыватныя бібліятэкі. Выпісваць свае часапісы, у якіх можна многа знайсьці ня толькі цікавых вестак, але і цэнных павучаючых артыкулаў. Першымі і найлепшымі падручнікамі дзеля навукі чытаньня і пісаньня пабеларуску будуць:

1. **Першыя Зерняткі** — С. Паўловіча,
2. **Пішы самадзейна** — С. Паўловіча.

Каб навучыцца правільна пісаць і гаварыць пабеларуску, трэба пазнаць добра:

1. **Беларускую граматыку**— Бр. Тарашкевіча,
2. **Беларускі правапіс** — Р. Астроўскага.

Каб мець хоць малое паняцьце аб беларускай літаратуры, трэба пазнаць:

1. **Гісторыю беларускае літаратуры** — М. Гарэцкага,
2. **Хрыстаматыю старое беларускае літаратуры** — таго-ж М. Гарэцкага і
3. **Хрыстаматыю беларускае літаратуры** ад 1905 г. — І. Дварчаніна.

Апрача таго трэба прачытаць прынамсі такія кніжкі:

1. **»Шляхам жыцьця«** — Я. Купалы,
2. **»Новую Зямлю«**— Я. Коласа,
3. **»Сымона Музыку«** — Я Коласа,
4. **«Вянок«**— М. Багдановіча,
5. **«У Палескай глушы»** і
6. **«У глыбі Палесься»** — Тараса Гушчы і іншыя творы маладзейшых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў: Машары, Танка, Арсеньневай, Ільляшэвіча, В. Адважнага.

Паняцьце аб геаграфіі і гісторыі Беларусі можна здабыць з наступных кніжак:

1. **Геаграфія Беларусі** — А. Смоліч.
2. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі** — праф. Ул. Ігнатоўскага,
3. **Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня** — Ад. Станкевіча.

Сялянскай беларускай моладзі радзім так-жа зацікавіцца такімі кніжкамі:

1. **„Ziemlarobskaja čytanka“** —інж. Ад. Клімовіча,
2. **«Zło i lakarstva na jaho»**— інж. Ад. Клімовіча,
3. **«Пчолы»** — Я. Пачопкі,
4. **«Садоўніцкая чытанка»**— кніжка гэта яшчэ ў друку, але за месяц выйдзе і будзе ўжо ўпрадажы.

Усе вышэй пералічаныя падручнікі і кніжкі можна выпісаць з Беларускае кнігарні „Пагоня“— Wilno, Завальная вул. № 1.



---

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy 15)

# Pieršaja pomač pry raptoŭnaj chvarobie.

## Ukušeńnie źmiajoj

Kali ŭkusić čałavieka źmiaja, dyk miesca heta chutka puchnie i čyrvanieje, potym pačynaje sinieć i chaładzieć, a čałaviek tady dastaje hałavykružeńnie, robicca jamu młosna, pačynaje jon niečaha pałochacca.

Najčaściej kusaje źmiaja ŭ nahu, nadta redka ŭ ruku.

*Ratavańnie.* Pakusanamu treba najchutčej pieraviazać prykł. nahu, vyšej miesca pakusańnia, kab jad nia moh łučyć da kryviabiehu. Pieraviazać možna abo šniurkom, ci niejkaj padviazkaj — što jość pad rukoj.

Kali možna dastać niedzie ŭ aptecy lakarstva, treba ranu zalić jodam, abo vypalić kiślaju azotnaju, siernaju, ci hryzučym łuham potašavym. Kali-b hetych lekaŭ niemahčyma było dastać, dyk tady ranu treba prypiačy raspalenym žalezam. U nutro treba dać chvoramu napicca vodki, vina ci rumu abo kamfory.

Jasna, što lahčej moža ratavać lekar i chutčej pamoža. Dziela taho lepš chvoraha nieadkładna zaviaści da dochtara.

## Ukušeńnie kazulkami

Miesca, jakoje ŭkusiła pčała, asva, šeršeń, złatalitka, nia možna mazać ślinoj, i nia treba zaklejvać anhielskim plastram, jaki taksama zmočany ślinoj. Heta dziela taho, što razam sa ślinoj mohuć łučyć u ranu bakteryi (zarazki), jakija zaŭsiody znachodziacca ŭ ślinie.

*Ratavańnie.* Treba vyciahnuć džało (žyhadła) ščypčykami ci čysta vymytymi nohciami i tady nalić na ŭkušanaje miesca kroplu amanjaku (našaty-

## Nad mahiłami biełaruskich piśmieńnikaŭ

Sumnaj vosieńniu, 2-ha listapada, — kali ŭsia pryroda byccam zamiraje, kab paśla jznoŭ paŭstać i žyć — kataliki śviatkujuć Śviata Pamioršych — Zaduški. Dziŭnaje heta śviata, a adnačasna vielmi pryhožaje, maje hłyboki maralny sens. U hety dzień vialikija natoŭpy ludziej adviedvajuć mahiłki, addajuć češć pamioršym svaim baćkom, svajakom, znajomym, a tak-ža vialikim pieśniarom, kulturnikam i dziejačom.

Biełarusy ŭ Vilni z hodu ŭ hod na Zaduški źbirajucca nad mahiłami svaich piśmieńnikaŭ na mahiłkach Rossy.Hetak było i sioleta.

A 5-taj hadzinie ŭviečary zyjšlasia vialikaja hramada biełaruskaje moładzi i starejšaha hramadzianstva na Litarackaj Horcy nad mahiłaj Kazimiera Svajaka, pry jakoj hanarovuju stražu trymali biełaruskija skaŭty i jakaja zahadzia ŭžo była aśviečana śmatlikimi śviečkami i lampijonami. Niezadoŭha byŭ złožany ad vilenskich biełarusaŭ vialiki vianok z nacyjanalnymi biełaruskimi bieła-čyrvona-biełymi šarfami. Najbolš uračystaj chvilinaj byŭ toj čas, kali nad mahiłaj pačaŭ piajać chor. Spačatku razlahałasia miłahučnaja pieśnia „O Boža, Zbaŭca naš“, paśla žałobny marš, a ŭrešcie biełaruski relihijny himn „Boža, što kaliś narody“..

Z mahiły Kazimiera Svajaka i jahonaha brata b. biel. pasła Albina Stepoviča, usie pajšli na mahiłu druhoha biełaruskaha piśmieńnika i paeta Jadvihina Š. I tut biel. skaŭty stajali, vyciahnuŭšysia ŭ strunku, spaŭniajučy hanarovuju stražu. Jany aśviacili tak-ža i mahiłku. Pry pamiatniku byli złožanyja dva vianki z nacyjanalnymi istužkami — ad „Šlachu Moładzi“ i ad vučniaŭ Vil. Biel. Himnazii. Źbiraŭsia što-raz bolšy natoŭp, katory zatamavaŭ usie prachody. Chutka razlahłasia jznoŭ melodyja pieśni „O Boža, Zbaŭca naš“. Adkrytyja hałovy moładzi addavali češć svajmu pieśniaru. Siarod prysutnych byli i pradstaŭniki vioski z-pad Baranavič, z-pad Maładečna, jakija prybyli ŭ Vilniu taksama addać češć Vialikim Synom Biełaruskaha Narodu. I tut, paśla žałobnaha maršu, na zakančeńnie, byŭ adśpiavany biełaruski relihijny himn „Boža, što kaliś narody“...

U mižčasie sabrałasia hramada biełarusaŭ i na druhim vilenskim, Bernardynskim, mahilniku, nad mahiłaj trahična pamioršaha ŭ 1931 h. biełaruskaha dziejača Ks. Fr. Ramejki, dzie taksama byli adśpiavanyja biel. relihijnyja pieśni.

Choć usie hetyja ŭračystaści žałobnyja i adbyvalisia na mahiłkach, adnak dušu achapłała radaść, hledziačy na vialikuju hramadu biełaruskaje moładzi, siarod jakoje što-raz bolš novych ludziej, novych siłaŭ. Stajali tam, pry mahiłach svaich piśmieńnikaŭ, ludzi roznych kirunkaŭ i pahladaŭ, kataliki i pravasłaŭnyja, złučanyja adnej vialikaj biełaruskaj idejaj.

Pryhožy zvyčaj adviedvańnia miascoŭ spačyvańnia vialikich ludziej pavinien pryjmacca jak najšyrej. Padobnyja ŭračystaści pavinny adbyvacca i na pravasłaŭnych mahiłkach na druhi dzień Siomuchi, kali pravasłaŭnyja adviedvajuć svaje mahilniki, bo i tam pachavana šmat zasłužanych biełarusaŭ. Treba, kab i na vioscy biel. moładź adviedvała mahiłki tych ludziej, što zasłužylisia pierad Biełaruskim Narodam, kab apiekavałasia ichnimi mahiłami, addajučy takim čynam naležnuju im češć i tvoračy pryhožuju hłybokuju tradycyju — zvyčaj.

Z. B.



Biełaruski viaskovy mahilnik

ru) ci abmyć jaho vadoj z voctam. Kali-b ukušanaje miesca apuchła, dyk treba kłaści hanučki zmočanyja ŭ vadzie z voctam. U prypadku, kali-b puchlacina i boli nie pamienšyliś, treba kliknuć dochtara. Časta na fruktach, jakija jamo prosta z dreva, moža siadzieć pčała ci asva. Tamu fruchty treba zaŭsiady dobra ahlanuć, kab pčoły nia łučyli ŭ horła. Ukušeńnie pčały ci asvy ŭ horła moža być pryčynaj raptoŭnaj śmierci.

### Toplenik

Kali ludzi vyciahnuć z vady toplenika, treba jak najchutčej vykinuć vadu z jahonych orhanaŭ dychańnia. Robicca heta tak:

*Ratavańnie.* Rasšpilić abo prosta razarvać vopratku i pieraviesić toplenika praz kalena ratujuščaha tak, kab hałava była z levaha boku i źviernutaja da ziamli. Levaj rukoj ratujučy trymaje hałavu toplenika, pravaj rytmična ściskaje hrudnuju kletku. Kali z rotu toplenika pierastanie ŭžo vylivacca vada, treba pakłaść jaho na plačach i rabić jamu štučnaje dychańnie, až pakul toplenik sam nie pačnie dychać. Časta heta tryvaje paru hadzinaŭ.

Kali toplenik užo dobra dychaje, možna dać jamu paniuchać našatyr, ci eter, raścirać jahonaje cieła šurpataj hanučkaj ci suchoj rukavicaj i abtulić jaho potym ciopłaj koŭdraj.

Kali toplenik pryjdzie ŭžo da pamiaci, treba dać jamu niečaha haračaha napicca. Časta byvaje, što ŭ vadzie toplenik schopić taho, chto jaho ratuje, za ruki i ciahnie jaho za saboj. Kab nie dapuścić da hetaha, ratujučy pavinien schapać toplenika nie za ruki, ale za vałasy i ležučy na plačoch dapłyvać z im da bierahu.

### Cužoje cieła ŭ ranach, vusie, nosie straŭniku, voku

Kali ŭ ranu łučyć niejkaje čužoje cieła, prykł. kula, škło, dreva, hvoździ, hołka i t. p., dyk usio he-

* * *

*Поле замоўкла...*
*Ня звоніць калосьсе...*
*Вецер тужліва шуміць.*
*Шчасьця чужога*
*лавіць адгалосьсе*
*Неяк — ня лоўка —*
*Сэрца ў парывах гарыць.*

*Жоўтая восень.*
*Туга у прасторы.*
*Далі заткаліся самі смугой.*
*Мы з табой, доля,*
*сягодніка — спорым —*
*Болей ня просім,*
*Паняй была ты, —*
*а будзеш — слугой.*

*Там на вазёрах,*
*над сінім балотам*
*Сьцеліцца сіні туман.*
*Я сваю радасьць*
*ня кіну пад плотам—*
*У песьнях узорных*
*Роднай Краіне аддам.*

*Хмурымі днямі —*
*у сэрцы сьцюдзёна,*
*Сум і трывога ў душы —*
*Ты нам выбачыш*
*Краіна Родная,*
*Што мы часамі*
*Горка бязверай грашым.*

*М. МАШАРА.*

Дзікава. 1938.



# Сялянскія гаспадаркі нашага краю

Часапіс „Epoka" час-ад-часу зьмяшчае дужа цікавыя артыкулы пяра маладога публіцыстага Яна Духноўскага. Зьмест ягоных артыкулаў пераважна адносіцца да беларускіх земляў у Польскай Рэспубліцы, насельніцтва гэтых земляў, яго соцыяльнага, эканамічнага і культурнага палажэньня. У нумары 8(111) гэтага часапісу Я. Духноўскі развважаў, між іншым, пытаньне соцыяльна-гаспадарчага ладу, выкарыстываючы пры тым статыстычныя дадзеныя адносна гэтага пытаньня. Трэба сказаць, што соцыяльна-гаспадарчы лад на разгляданых аўтарам землях прадстаўляецца дужа кепска; найлепш аб гэтым кажуць цыфровыя дадзеныя, якія падаём ніжэй за аўторам артыкулу з „Epoki".

## Агульныя спасьцярогі

Абшар Віленскага і Наваградзкага ваяводзтваў займае разам 51.977 кв. кілямэтраў. Паводле сьпісу насельніцтва з 1931 г. на гэтым абшары налічана 2 міліёны 233 тысячы насельніцтва. Дадаўшы да гэтага абшару (Віленскага і Наваградзкага ваяв.) ваяводзтва Палескае і чатыры ўсходнія паветы Беластоцкага ваяв., атрымаем абшар 100 тысяч кв. кілямэтраў (больш як чацьвертую частку ўсяе Рэчыпаспалітае) з насельніцтвам больш 5 міліёнаў.

## Земляробства

90 працэнтаў насельніцтва Наваградзкага ваяв. — гэта сялянства, земляробы — жыхары вёскі. У Віленскім ваяв. сялян меньш, бо ўсяго каля 80 прац., а гэта дзеля таго, што ў Віленскім ваяв. знаходзіцца вялікі меставы асяродак — Вільня. Усходняя частка ваяводзтва Беластоцкага ў гэтым сэнсе падобнае да ваяв. Віленскага, а Палескае — ня многа розьніцца ад Наваградзкага. Сярэдня сялянства на ўсім гэтым абшары будзе каля 85 прац. — Калі-ж возьмем пад увагу, што меншыя мястэчкі на разгляданых абшарах маюць высока земляробскі характар, то тады працэнт насельніцтва, што жыве з земляробства, яшчэ больш павялічыцца і хто ведае, ці не асягне 90 прац., або ў абсалютных цыфрах — 4.5 міліёны.

## Лік гаспадарак і працэс іх драбненьня

Паводле дадзеных статыстыкі з 1931 г., у Віленскім ваяв. налічана 170 300 земляробскіх гаспадарак, а ў ваяв. Наваградзкім — 162.425. Статыстыка-ж з 1935 г., праведзеная Скарбовай Палатай у Наваградку налічыла ў Наваградзкім ваяв. ўжо 214.458 гаспадарак, а значыць больш як на 52 тысячы. Параўнаўча, прыймаючы пад увагу шыбкі працэс драбненьня гаспадарак у Наваградзкім ваяв. праз 5 гадоў, лік гаспадарак у Віленскім ваяв. паводле афіцыяльнае статыстыкі з 1935 г. трэба павялічыць на 50 тысяч, каб мець агульны лік іх у 1935 г., — бо падобна ўзрос лік гаспадарак за гэны час і ў Віленскім ваяв.

## Карлаватыя гаспадаркі

На разгляданым абшары, бяручы пад увагу якасьць глебы

---

ta treba pakinuć u ranie, pakul pryjdzie lekar. Heta dziela taho, kab čužoje cieła nie dastałaś hłybiej.

Kali-b čužoje cieła lažała paviarchoŭna i možna było-b jaho samomu z rany vyniać — tady treba dać, kab kroŭ krychu paciakła dziela taho, što razam z kryvioju vyjduć i tyja zarazki, jakija mahli łučyć z čužym ciełam.

Kali niejkaje čužoje cieła (ziarniatka, kamień, kazulka, haroch i t. d.), łučyć u vucha, dyk treba jaho tam pakinuć, pakul pryjdzie lekar, jaki vyciahnie heta specyjalnym instrumentam. Nikoli nia možna samomu ŭ vusie kałupać, kab nie papchnuć hłybiej. Kali ŭ vucha łučyła mucha, błycha, ci inšaja kazulka, dyk možna nalić u vucha paru kroplaŭ ciopłaj alivy: kazulka tady utopicca i vypłyvie navierch. Taksama treba pastupić, kali niejkaje čužoje cieła łučyć u nosavuju jamu. Kali niechta parahłynie kość, ci kusok kości, abo škło ci niejkuju špilku, treba dać jamu jeść šmat bulby raściortaj, ci ryžavych krupaŭ, husta zavaranych, małaka i ždać spakojna. Časam čužoje cieła vychodzić cieraz adchodnuju kišku tolki praz 3—6 dzion. Kali čužoje cieła łučyć u voka, najlepš voka nia cierci, ale pramyć jaho vadoj. Kali-b čužoje cieła stul nia vyjšla, treba nieadkładna, pakul voka nie napuchła, źviarnucca da dochtara. Časta ŭ rahavuju bałonku voka moža łučyć łuska ad kałośsia ci apiłki žaleza i mocna tam siadzieć. I tut moža najchutčej pamahčy dochtar.

## Štučnaje dychańnie

Dziela taho, što u hetym raździele časta spatykaliś my sa štučnym dychańniem, treba viedać, jak heta rabić.

Čałavieka chvoraha kładuć na plečy, pad jakimi padkładvajuć złožanuju vopratku.

*Samo štučnaje ŭdychańnie* robicca tak: łokci chvoraha adkidvajucca ŭvierch i nazad.

*Štučnaje vydychańnie*: łokci pryciskajucca da hrudziej i žyvata.

і стан земляробскае культуры, гаспадарку, якая налічае менш 5 гэктараў зямлі, трэба ўважаць за карлаватую. Норма гэтая пры лепшай глебе можа быць паменшана, пры горшай — павялічана (да 7 і больш гэктараў). Лічачы 5 га за сярэднюю норму максымальнай вялічыні, будзем мець гэткага тыпу гаспадарак паводле сьпісу з 1935 г.: у ваяводзтве Віленскім — 66 028; у Наваградзкім — 80 560, а параўноўваючы гэтыя цыфры з агульным сьпісам гаспадарак, будзем мець, у працэнтных адносінах карлаватых гаспадарак у Віленскім ваяв. 46 прац., а ў Наваградзкім — 53.5 прац.

Гэтыя аднак статыстычныя дадзеныя ня зусім згаджаюцца з сапраўдным станам. Сьведчыць аб гэтым і параўнаньне афіцыяльнае статысткі з 1931 з падлічэньнямі Скарбовае Палаты з 1935 г. у Наваградку(!) — у пытаньні агульнага ліку гаспадарак.

Паводле аблічэньняў (з 1935 г.) Галясевіча — начальніка самаўрадавага аддзелу у Наваградзкім ваяводзтве — на абшары гэтага ваяводзтва карлаватых гаспадарак у 1936 г. было 62,1 прац. агульнага ліку гаспадарак. — Працэнт карлаватых гаспадарак у Наваградзкім ваяводзтве узрастае на 1,5—2 працэнты ў год у адносінах да агульнага ліку, і сяньня (1938 г.) карлаватых гаспадарак ёсьць там 67—68 прац., ці інакш больш як 2/3 агульнага ліку гаспадарак.

Адпаведна точна дадзеных так адносна ліку карлаватых, як і агульнага ліку гаспадарак у адносінах да Віленскага ваяв. — няма. Аднак можна лічыць, што і тут гэтая справа — карлаватых гаспадарак і працэс іх ствараньня — прадстаўляецца аналёгічна. Я. Духноўскі налічае карл. гасп. у Віленскім ваяв. у 1938 г. прыблізна каля 58,5 прац.

На абшары 100 тыс. кв. клм. разгляданых Віленскага, Наваградзкага, Палескага і ўсходняй часьці Беластоцкага ваяводзтваў, як ужо сказана, жыве каля 4.5 міліёнаў сялянства. — Калі прымем пад увагу, што на ўсім гэтым абшарах існуе тая самая сярэдняя працэнтнасьць карлаватых гаспадарак, што і на абшары Віленскага і Наваградзкага ваяводзтваў, дык атрымаем такі вынік: **2 міліёны 800 тысяч вясковага жыхарства жыве на карлаватых гаспадарках.**

## Дадатковыя заняцьці насельніцтва

Гэтыя 2,8 міліёны насельніцтва, ня могучы ўтрымацца з працы на сваіх карлаватых гаспадарках, змушаны шукаць заняцьця і даходаў дадатковых на старане, хоць няма сумніву, што аграмадны лік малазямельнага насельніцтва — з карлаватых гаспадарак — ня можа і ня мае магчымасьці атрымаць якога-небудзь заработку паза гаспадаркай. І гэткага насельніцтва міліёны і яно прымушана цярпець ня раз голад. —

* *

Гэтулькі цікавых цыфраў падаў Я. Духноўскі ў „Епоцы". Такі малюнак соцыяльнага і эканамічнага палажэньня нашага краю, у якім жывуць пераважна Беларусы і які польская прэса называе часта як „Польска Б". Абраз, як бачым, ня цікавы і не весёлы, асабліва калі возьмем пад увагу, што ёсьць у нас многа сялян зусім беззямельных. Такое цяжкое палажэньне вёскі ставіць перад усім у тупік сялянскую моладзь, тым больш, што ёсьць ужо так-жа невясёлая статыстыка і аб вясковай моладзі. Так, між іншым, Інстытут Грамадзкіх Справаў, дасьледжваючы справу даплыву новых маладых пасьляваенных рук працы, сьцьвярджае вялікі ўзрост ліку моладзі ў веку 18 гадоў. Паводле гэных-жа дасьледжваньняў, блізу поўміліёна сялянскае моладзі Польскае Рэчыпаспалітае шукае сабе працы, бо на дагэтуляшніх бацькаўскіх гаспадарках ня можа зьмясьціцца. А працу, як ведаем, цяжка цяпер знайсьці.

Усё гэта сьведчыць аб вялікай патрэбе шырокае зямельнае рэформы, каторая заспакоіла-б зямельны голад нашага сялянства.

І—ч.

## Hranity

*Ci idzieš ty baraznoju,*
*Ci ściažynkaj łuhavoj,*
*Ci pucinkaju lasnoju...*
*Ŭ kamień vytnieśsia nahoj.*

*Nu-ž i ich, dzie nia zirnieš ty...*
*Ech, kamienny naš razłoh!*
*Ŭsiudy čviordyja hranity*
*Na ziamli ŭ jaje płastoch.*

*Hej, łamy, łapaty, važcie*
*Kamień toj z ziamnych płastoŭ!*
*A z hary valicie, žarcie,*
*Vy, miljony małatoŭ!..*

*Hej, žbiarecie, što pabita,*
*Na rasčyščany prastor —*
*Z biełaruskich my hranitaŭ*
*Tut zbudujem — chmaradzior!*

*K. Rabojša.*

Hetyja dźvie spachvatki i buduć štučnym dychańniem. Časta treba heta rabić u praciahu paru hadzinaŭ, i zaŭsiody abo ŭ izbie pry adčynienych voknach, abo na dvary, kab byŭ dostup śviežaha pavietra.

## Apopleksyja-paraliž

Najčaściej pryčynaju paraliža źjaŭlajecca kryviatok u mazhu. Časam niedachop kryvi ŭ mazhu moža spryčynicca da hetaj chvaroby. Chvarejuć amal nia vyklučna ludzi starejšyja, prynamsia paśla 50-ci hadoŭ.

Prad atakaj apapleksji tvar stanovicca čyrvonym, chvory čuje ciažaść i bol hałavy i zavaroty.

*Prajaŭlajecca* heta chvaroba tym, što čałaviek raptoŭna stanovicca niaprytomny, nia moža ruchać chvoraju pałavinaju cieła, nia maje ŭ joj čućcia. Zrenki vuziejuć, na śviatło nie reahujuć, muskuły nia majuć prutkaści i robiacca vialymi, chacia byvaje, što ŭ zachvareŭšaj čaści cieła pajaŭlajucca chutka minajučyja sudarhi. Tvar silna čyrvanieje, časam na't sinieje. Chvory dychaje hłybaka, hołasna, chrapie, časta addaje mač i kał pad siabie.

*Lačeńnie* Choraha treba pakłaść u paścieli tak, kab hałava i ŭsia vierchniaja čaść cieła była vyšej. Na hałavu treba pakłaść puzyr, ci niejki miašok z lodam, abo ladziany kampres. Dobra budzie prystavić plavicy za vušmi.

Kiški treba aparažnić, dajučy lavatyvu.

Kali chvory ačuniaje, dać jamu rycyny, ci anhielskaj (horkaj) soli, kab dobra pračyściła.

Nohi treba zakrucić u niešta ciopłaje, abo prystavić ciopłyja butelki da ich. Možna nohi źviazać u kaleniach na paru minut padviazkami, kab vyklikać zastoj kryvi ŭ žyłach i hetak źmienšyć kryviany nacisk. Lepš adnak-ža, kali heta mahčyma, kliknuć dochtara, chutčej moža jon pamahčy. Henyja-ž rady pakažuć tolki sposab, što i jak rabić da jahonaha prychodu.



# Zbiełaruskaha žyćcia

**Zaćvierdžańnie kanfiskataŭ biełaruskich časapisaŭ.** Vilenski Akružny Sud 27.X.38 zaćvierdziŭ kanfiskaty: № 20 „Šlachu Moładzi“, № 10 „Wiadomości Białoruskich“, № 27 „Chryścijanskaj Dumki“, № 8 „Zorki“ i pieršaha vydańnia Kamunikatu № 8 Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia.

**Apraŭdaŭ.** 26.XI siol. Vil. Akr. Sud, jak druhaja (apelacyjnaja) instancyja, razhladaŭ spravu redaktara „Šlachu Moładzi“ J. Najdziuka, abvinavačanaha i zasudžanaha Haradzkim Sudom za skanfiskavany № 12 „Šlachu Moładzi“ z 1937 h. na 30 zł. štrafu. Akružny Sud karu henu skasavaŭ i red. J. Najdziuka apraŭdaŭ.

**Nie zaćvierdzili statutu biełaruskaha antyalkaholnaha tavarystva.** Hrupa biełaruskaje intelihiencyi ŭ Vilni sioleta chacieła sarhanizavać Biełaruskaje Tavarystva Ćviarozaści (antyalkaholnaje), jakoje mieła na mecie viaści baraćbu z pjanstvam. Dziela hetaha byŭ apracavany adpaviedny statut i padany ŭładam da zaćvierdžańnia, adnak ułady statutu nie zaćvierdzili i Tavarystva nia moža paŭstać.

**Uračysty viečar u biełaruskich skaŭtaŭ.** U niadzielu 30.X siol. u zali Vilenskaje Biełaruskaje Himnazii adbyłosia ŭračystaje razdańnie skaŭckich kryžoŭ novym biełaruskim skaŭtkam i skaŭtam. Na ŭračystaści hetaj byli abiedźvie družyny vil. bieł. skaŭtaŭ, vučyciali bieł. himnazii i pradstaŭniki Hurtka Pryjac. Bieł. Skaŭtaŭ. Kryžy razdavała kamandantka Vil. Vokr. Skaŭtak, žadajučy, kab tyja, što hetuju skaŭckuju aznaku atrymlivali, naležna spaŭniali skaŭckija abaviazki. Paśla pramaŭlali dyr. B. Kavalevič, ks. prefekt St. Hlakoŭski i stud. Č. Najdziuk ad imia pryjacielaŭ bieł. skaŭtaŭ, zaklikajučy biełaruski skaŭcki maładniak da samaŭzhadoŭvańnia ŭ duchu nacyjanalna-biełaruskim. — Dalej, adbyvalisia deklamacyi i inscenizacyi tvoraŭ bieł. paetaŭ, i pryhoža śpiavaŭ roznyja bieł. pieśni skaŭcki miašany chor. Na zakančeńnie adbyłasia harbatka naładžanaja skaŭtkami, u časie jakoje častavali jany haściej i svaich kalehaŭ navypiekanymi saboj roznajakimi piernikami. Usio adbyłosia vielmi ŭdała ŭ miłym biełaruskim nastroi.

**Siabroŭskaja studenckaja harbatka.** 29.X.38 biełaruskija studenty Vilenskaha Universytetu ładzili pieršuju ŭ novym školnym hodzie siabroŭskuju harbatku, na jakoj byli tak-ža pradstaŭniki studentaŭ litoŭcaŭ i ukraincaŭ.

**Studenckaja viečaryna.** 5.XI Biełaruski Studencki Sajuz u Vilni ładziŭ publičnuju viečarynu.

**„Slovansky Prehled“ ab bieł. litaratury.** U № 8 šyroka-viedamaha českaha časapisu „Slovansky Prehled“, jaki vychodzić u Prazie Českaj, sioleta nadrukavana pieršaja častka artykułu P. Łastaŭki (biełarusa) ab sučasnaj biełaruskaj litaratury ŭ Polskaj Respublicy. Artykuł hety nadrukavany na pieršym miescy z klišaj M. Tanka, abyjmaje tvorčaść Tanka i Michasia Mašary. — Zaznačajem, što hety-ž časapis dva hady tamu nadrukavaŭ artykuł dr. T. Hryba pryśviačany vyklučna tvorčaści M. Mašary, źmiaščajučy adnačasna jahonuju klišu i niekalki vieršaŭ pierakładzienych na českuju movu viedamym českim litarataram Fr. Tichim.

**a. M. Maskalik vyjechaŭ u Niamieččynu.** Małady biełaruski śviatar a. M. Maskalik, paśla 3-ch miesiačnaj pabyŭki ŭ kraju, 1.XI vyjechaŭ z Vilni jznoŭ u Niamieččynu na dalejšyja studyi.

**Z vydavieckaje nivy.** — Na pačatku m-ca listapada vyjšła z druku ŭ Vilni 3(16) knižka kvartalnaha biełaruskaha litaraturna-navukovaha i hramadzkaha časapisu „*Калосься*“. Źmieščany ŭ joj cieły rad vielmi cikavych i cennych artykułaŭ, pryhožych litaraturnych tvoraŭ i cikavaja navukova-kulturnaja chronika. „Kałośsie“, jak my ŭžo nia raz pisali, heta vielmi cenny časapis, katory zdabyvaje sabie što-raz bolšuju papularnaść nia tolki siarod biełaruskaje intelihiencyi, ale i siarod čužyncaŭ. Kožnamu, chto cikavicca biełaruskaj litaraturaj, navukaj i nia maje dahetul „Kałośsia“ radzim nieadkładna jaho vypisać. Adrys redakcyi: Wilno, Zavalnaja vul. 1. Padpiska na hod 2 zł. Cana adnaje knižki 50 hr. (Kožnaja knižka maje 64 bačyny).

— „*Паштовыя карткі*“. Biełaruski metadystaŭski časapis „Сьветач Хрыстовае Навукі“ ŭ Varšavie vydaŭ dźvie paštovyja biełaruskija kartki: adna z ich z klišaj (padabiznaj) dr. Fr. Skaryny—pieršaha pierakładčyka i drukara Biblii pabiełarusku, a druhaja z klišaj Vasila Ciapinskaha, pierakładčyka Evanelii na biełaruski jazyk (1540—1603 h.).

— Chutka vyjdzie z druku: „*Беларускі Сялянскі Календар кніжка на 1939 г.*“ Zakazy pryjmaje na bieł. kalendary adryŭnyja i knižki i najchutčej ich vykonvaje **Biełaruskaja Kniharnia „Pahonia“ — Wilno, Zavalnaja 1.** Ceny biełaruskich kalendaroŭ za 1 ekzemplar 50 hr., chto kuplaje bolšuju kolkaść, toj dastaje vialikuju škidku.

## Z dziejnaści Biełaruskaha Tavarystva ŭ Varšavie

Aśvietnaje Tavarystva Biełarusaŭ u Varšavie viadzie davoli žyvuju dziejnaść. Što suboty adbyvajucca zborki, viečaryny, čytajucca referaty, adbyvajucca proby novasarhanizavanaha bieł. choru i h. d. Apošnim časam Tavarystva maje na mecie sarhanizavać cieły rad viečaroŭ dziela abznajamleńnia jak biełarusaŭ u Varšavie, tak i polskaha hramadzianstva z biełaruskim rucham, bieł. litaraturaj, historyjaj, mastactvam i pieśniaj.

Z hetaha cyklu (radu), 29.X siol. adbyŭsia ŭ Varšavie aŭtarski viečar M. Tanka. Na całaść prahramy skłalisia: 1. ustupnaje słova siabry ŭradu T-va M. Orsy, 2. referat M. Tanka ab sučasnaj bieł. litaratury i 3. aŭtorecytacyi.

Viečar tryvaŭ bolej 2 hadzin. Słuchačoŭ sabrałasia kala 200 asob. Siarod ich byli tak-ža pradstaŭniki presy i litaraturnych kruhoŭ polskich, litoŭskich i ukrainskich.

Uražańnie z całaści viečaru było vielmi miłaje. Paet M. Tank z pačućciom čytaŭ šmatlikija svaje drukavanyja, a tak-ža jšče i niedrukavanyja tvory. Rodnyja słovy hłybaka zapadali ŭ dušy synoŭ Biełaruskaha Narodu, addalenych ad svaje staronki. Prysutnyja z radaściaj słuchali recytacyjaŭ tvoraŭ, pahladajučy na nacyjanalnyja biełaruskija bieła-čyrvona-biełyja ściahi i „Pahoniu“, jakija majestatyčna ŭpryhožyvali zalu. Na ścienach-ža byŭ vypisany klič:

„*Ty musiš zmahacca, a ŭ zmahańni*
*I pieśni, i sonca, i dolu zdabyć!*“ — z katorym na vusnach, poznym viečaram, raschodzilisia sabranyja biełarusy.

*M.*

## Na dapamahovy fond biełaruskaj moładzi pry „Šl. Mł.“

*achviaravali:*

E. Budźko 2 zł., J. Korčyk 50 hr., Fr. Makarevič 20 hr., Mik. Janucevič 30 hr.

Usim achviaradaŭcam ščyra dziakujem.

Red. Kal. „Šlachu Moładzi“

## Што чуваць

— 6-га лістапада ў **Польшчы** адбыліся выбары ў Сойм. Усе бадай мандаты здабыў О.З.Н. і тыя, што з ім дагаварыліся. Адкрыта апазыцыйны да ОЗН-у пасол прайшоў толькі ў Вільні. Ёсьць ім ген. Жэлігоўскі, які і здабыў найбольш галасоў. Зацікаўленьне выбарамі агулам было не вялікае.

— 2-га лістапада ў Вене **нямецкі** міністр заграгнічных спраў Рібэнтроп і **італьянскі** мін. загр. спраў Чіяно, як запрошаныя судзьдзі, разглядалі справу тэрыторыяльных дамаганьняў **Мадзяршчыны** адносна **б. Чэхаславацкае Рэспублікі**. Міністры Рібэнтроп і Чіяно пастанавілі ў вялікай меры дамаганьні Мадзяршчыны задаволіць і прызналі ёй даволі вялікі абшар **Закарпацкай Украіны і Славакіі** з наступнымі местамі: Комарно, Новыя Замкі, Лучэнец, Рымскую Соботу, Кошыцы, Рожанаў, Ужгорад і Мукачэў. Агулам Мадзяры атрымалі 12.000 кв. клм. Пасьля гэтага абшар Закарпацкай Украіны стаўся вельмі малым, прынцыпова аднак справа не зьмянілася і Закарпацкая Украіна будзе далей існаваць як незалежнае гаспадарства злучанае у фэдэрацыю з Славакіяй і Чэхіяй. Прэм'ерам Закарпацкай Украіны ёсьць украінец а. А. Валошын. З венскае пастановы нямецкага і італіянскага міністраў відаць, што імкнуліся яны задаволіць у магчыма найбольшай меры дамагані Мадзяраў, каторых яны хочуць мець сваімі саюзьнікамі, і недапусьціць да супольнае мадзярска-польскае граніцы, каторую асабліва моцна хацелі мець **Палякі.**

—У **Літве** 14 га лістапада маюць адбыцца выбары прэзыдэнта Літоўскага Гаспадарства. Адзіным, як пішуць газэты, кандыдатам, здаецца, будзе дасюлешні высока заслужаны перад Літоўскім Народам Прэзыдэнт Антонас Сьмэтона.

—**Японцы,** забраўшы м. Кантон, адбілі ў Кітайцаў і м. Ганкоў. Пасьля гэтага шмат хто казаў, што ўжо мусіць будзе канец вайны і ген. Чан-Кай-Шэк пойдзе Японцам на ўступкі, аднак канца вайны далей ня відаць. Кітайцы далей заўзята бароняцца.

— Мусоліні з **Гішпаніі** адклікаў, згодна з абяцанкай у Мюнхене прэм'еру Чэмбэрлену і Да-




### Добрыя і кепскія зьявішчы

*Харосіца, Нягневіцкае воласьці, Наваградзкага пав.* Нядаўна ў Харосіцу прыяжджалі нейкія „паны" і нагаварвалі людзей падпісваць нейкія дэкларацыі на польскую школу, ды прасілі ахвяраў па 2 зл. У нас людзі разумеюць патрэбу школаў і хочуць мець іх як найбольш, аднак дэкларацыяў гэных не падпісвалі, а што да ахвяраў, дык казалі тым „паном": „Прыедзьце вы да нас з прапановай беларускай школы, то мы вам не па ?, а па 4 зл. дамо, хоць самі мы бедныя". І сапраўды, народ наш моцна жадае свае беларускае школы, але ўжо ня верыць, ці дамаганьне яе ўлады заспакоіць і ці сапраўды гэткую школу дадуць. Вось-жа, на мой пагляд, ня трэба думаць аб тым, які будзе адказ, а дамагацца таго, што нам належыцца і чаго мы жадаем. Я веру, што калі будзем стойка дамагацца свае беларускае школы, дык раней ці пазьней будзем яе мець.

З сумам адначасна трэба закрануць другую справу. Паўстала ў нас нейкае „коло" „інтэлігенцы" ці „экс-інтэлігенцы", якое ў асяродзьдзі сялянскае моладзі, замест культурнае работы, дае вельмі няпрыгожыя прыклады. Адбываецца там часта п'янства, каторае робіць дэмаралізуючы ўплыў. Дзеля гэтага самазваных „культуртрэгераў" заклікаю апамятавацца, а моладзь беларускую такія асяродкі, дзе ёсьць п'янства, абмінаць як найдалей.

*К. Крывіч.*

### Любяць чытаць газэты

*Клецак, Нясьвіскі пав.* Апошнія падзеі ў сьвеце ўскалыхнулі і вёску. Кажны цікавіцца, што [redacted] лед'е, 10.000 італіянскіх „ахвотнікаў," якія памагалі ген. Франко. Частка так-жа распушчана міжнароднае брыгады, каторая памагае ў Гішпаніі ўрадаўцам. Нягледзячы на гэта канца вайны ў Гішпаніі ня відаць, барацьба-ж адбываецца далей бяз большых зьменаў.

— У **Францыі** адбыўся кангрэс Партыі Радыкалаў, у якім прыймаў удзел прэм'ер Даляд'е, і які востра выступіў супроць камуністаў, дамагаючыся выключэньня іх зусім з палітычнага жыцьця Францыі. *jn.*

дзеецца на сьвеце і як толькі паедзе ў места, зараз-жа купляе газэту польскую ці расейскую. Найахвятней куплялі-б беларускія газэты, але іх нажаль на рынку няма і бел. часапісы рэдка выходзяць. Бывае так, што на рынку раскупліваюць усе газэты, якія толькі ёсьць. Вось-жа трэба было-б, каб і беларускія газэты былі на рынках. З другога боку ўсіх ахвотнікаў чытаньня газэт заклікаю выпісваць беларускія часапісы. А як нашыя часапісы будуць мець больш падпішчыкаў, дык будуць выходзіць часьцей. Супольнымі сіламі разбудуем сваю беларускую прэсу.

*І. М.*

### Pašyrajucca biblijateki... — ale polskija.

*Vaŭkavysk.* U Vaŭkavyskim paviecie apošnim časam źvierniena davoli vialikaja ŭvaha na pašyreńnie biblijatekaŭ. Asabliva pašyrajuć ciapier tut h. zv. biblijatečnyja ruchomyja kamplekty. Takich ruchomych nievialikich biblijatekaŭ, pieranošanych, ci pieravožanych z miesca na miesca, jość bolej 100. Usich-ža knižak u ich jość bolš 5000 tomaŭ. Na žal, kožnaja z hetych biblijatečak składajecca vykľučna z polskich knižak, biełaruskaje knižki ŭ ich niama navat na pakaz, choć ludzi na vioscy nia mienš cikaviacca biełaruskimi knižkami, jak polskimi. Dziela hetaha treba usim damahacca, kab u takija biblijatečki abaviazkava byli ŭviedzienyja biełaruskija knižki.

*Z. B.*

## Usiačyna

**Nichto jašče nie škadavaŭ,** chto: 1. byŭ dobrym dla ŭsich, 2. byŭ ciarplivym u kožnych abstavinach, 3. napierad vysłuchaŭ toje, što kažuć inšyja, a paśla vykazvaŭ svaju dumku, 4. napierad padumaŭ, a paśla kazaŭ, 5. trymaŭ jazyk za zubami, 6. byŭ miłasernym da tych, što cierpiać, 7. prasiŭ vybačeńnia ŭ tych, kaho abraziŭ, 8. ab nikim nie havaryŭ ničoha błahoha, 9. nie abhavorvaŭ nikoha i nia kidaŭ paklopaŭ, 10. nia vieryŭ danoščykam i padchlebnikam.

**Bura nad Japonijaj.** Nad Japonijaj praniasłasia strašennaja bura (tajfun), padčas katoraje źhinuła 200 asob, a 30 tysiač ludziej astałosia biez strachi nad hałavoj.

**Najstarejšaja ihra.** U Iraku (Azija) francuskaja navukovaja ekspedycyja vykapała šachmatnyja fihurki (šaški), jakimi ludzi ihrali 6 tysiač hadoŭ tamu. Heta kaža, što šachmatnaja ihra jość vielmi staraja, a moža i najstarejšaja z usich ihraŭ, katoryja znajuć ludzi.

**Vializarny pažar.** U m. Marsylija ŭ Francyi niadaŭna vybuch niabyvała vialiki pažar, u časie jakoha źhinuła 72 asoby.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# ПРЭМІІ падпішчыкам „Шляху Моладзі"

**за акуратную падпіску за 1938 год вылёсаваныя 30.X.1938 выпалі наступным асобам:**

1. **Радыё-апарат:** Ждану М. (Наваградчына).

2. **10 беларускіх бібліятэчкаў:** 1.Я. Самойло (Горадзеншчына), 2. Я. Прытыцкі (Сакольшчына), 3. Папоўскі М. (Стаўпецкі пав.), 4. Касьцюкевіч Я. (Пружанскі пав.), 5. Суляўко Ул. (Ваўкавыскі пав.), 6. Пашкевіч Ал. (Наваградчына), 7. Крывец С. (Беласток), 8. А. Новік (Куранец), 9. Рагойша К. (Маладэчанскі пав.). 10. Кажэмяка В. (Слонімскі пав).

3. **5 гадавых падпісак на беларускі літаратурна-навуковы часапіс »Калосьсе:«** 1. Сідарчук Ул. (Горадзеншчына), 2. Новаш Ю. (Нясьвескі пав.), 3. Булаўка М. (Наваградчына), 4. Сушко Іг. (Мёры), 5. Осененко Т. (Паставы).

4. **5 гадавых падпісак на беларускі гаспадарскі часапіс »Самапомач:«** 1. М. Галясевіч (Горадзеншчына), 2. Жэрко К. (Нясьвіскі пав.), 3. Хлябіч Ул. (над Нарвай), 4. Арэшка Я. (Баранавіцкі пав.), 5. Лашук Я. (Пастаўскі пав).

5. **Розныя беларускія кніжкі:** 1. Лапа М. (Навадруцк), 2.Гучак Т. (Воўпа), 3. Какола М. (Уселюб), 4. Скурат Я. (Докшыцы), 5. Бабіч Ул. (Язна), 6. Кенчанка Зінаіда (Вялейскі пав.), 7. Лаўнікевіч Ал. (Валожынскі пав.), 8. Цікота Андрэй (Жодзішкі), 9. Кішко Нікаонор (Пастаўскі пав.) і 10. А. Беленко (Зьдзецела).

Прэміі (радыё-апарат і кніжкі) высланы будуць усім поштай 10-га лістапада 1938 г. Падпіска на „Калосьсе" і „Самапомач" будзе залічана за 1939 г. і часапісы гэтыя будуць высылацца ўсім пачынаючы ад 1-га студзеня 1939 году.

# Napad Marsijanaŭ na Ameryku

Złučanyja Štaty Paŭnočnaje Ameryki, jak nivodzin kraj, słyvuć z roznych sensacyjnych zdareńniaŭ, štukaŭ i vydumkaŭ, u katorych amerykancy prosta lubujucca. Z hetaje adnak pryčyny 30.X sioł. Ameryka pieražyła niabyvałuju paniku. Usiamu-ž vinavataje było radyjo. Sprava ŭ tym, što adna z amerykanskich radyjostancyjaŭ naładziła aŭdycyju (pieradaču) pavodle fantastyčnaje povieści viedamaha anhlijskaha piśmieńnika Wells'a (čytaj—Uelsa) p. n. „Vajna Śvietaŭ". Povieść heta apisvaje, što byccam niaviedamyja dahetul nikomu ludzi z planety Mars pieralatuć na ziamlu i buduć vajavać nistožačy ŭsio, što tolki napatkajuć. Aŭtor radyjovaje pieradačy adnak povieść hetu pierarabiŭ i datasavaŭ da Ameryki i radyjo pačało nadavać, što byccam užo ŭ Štacie New-Jersey zvaliŭsia vystraleny z Marsa vializarny snarad, jaki adrazu zabiŭ 1,500 asob, a paśla rasčyniŭsia i z jaho vyskačyli Marsijanie dy pačali śmiercianosnymi pramieńniami ŭsio nistožyć. Suproć ich vystupiła amerykanskaje vojska, tanki i samaloty, ale z Marsa laciać novyja snarady i što ŭžo laciać marsijanskija samaloty na m. New-Jersey, kab abkidać jaho hazavymi i ahniavymi bombami. Zaraz-ža, padavała radyjo dalej, Marsijanie zbambardavali cełу rad amerykanskich miestaŭ i nazyvała ich sapraŭdnymi nazovami.

Pieradača vyklikała strašennuju paniku. Tysiačy radyjosłuchačoŭ, nie zrazumieŭšy dobra pieradačy, kidali ŭsio i ŭciakali z miesta. U New-Jorku za 10 minut palicyja atrymała 10 tysiač telefaničnych pytańniaŭ, što sapraŭdy ŭ Amerycy dziejecca. Hazety vydali nadzvyčajnyja dadatki i ŭspakojvali ludziej. Usie radyjostancyi tak-ža staralisia vyjaśnić, što pieradača hena była fikcyjnaja. Adnak ludzi nia vieryli im i znajšlisia navat takija pierapałochanyja, što prysiahali palicyi i redaktarom, što bačali na ŭłasnyja vočy pachod Marsijanaŭ. Byli i takija, katoryja ćvierdzili, što bačyli Marsijanaŭ na strechach svaich damoŭ.

U m. Atlanta u suviazi z hetym razyjšłasia viestka, što ŭžo pryjšoŭ kaniec śvietu. Žančyny sa strachu mleli, niekatoryja chacieli pakončyć samahubstvam, inšyja-ž horača malilisia. A nehry jak pačuli ab napadzie Marsijanaŭ tak uciakali adzin pierad druhim, što masu ludziej zdratavali.

Tolki pa niejkim časie ŭdałosia ŭsio ŭspakoić. Presa pierapoŭniena šyrokimi apisańniami hetych niazvyčajnych, paničnych chvilinaŭ. Da radyjostancyi-ž „Columbia", katoraja nadała henuju aŭdycyju, płyvuć damahańni adškadavańniaŭ, na ahulnuju sumu kala 50 milijonaŭ dalaraŭ.

**Čik.**

## Паштовая скрынка

**Г. Дзя-шку:** Верш, нажаль, слабы і да друку не падходзіць. Здольнасьці да пяра ў Вас ёсьць, толькі трэба іх разьвіваць. Можа напішаце карэспандэнцыю з жыцьця моладзі ў Вашай старонцы.

**В. З. у Празе:** Атрымалі 27.X.38. Дзякуем.

**N.:** Артыкул надрукуем, крыху толькі скароцім. Шкада што Вы не падпісаліся пад ім.

**Др. М.:** Атрымалі, карыстаем і просім пісаць часьцей.

**М. Януц.:** Грошы атрымалі, адрыс папраўілі, сьпеўнік высылаем.

**Я. Попцы:** Ахвяру на Музэй атрымалі і перадалі. Шчырая падзяка.

**Т. Нахв.:** Падпіску атрымалі. каталёг высылаем.

**Бел. Цэнтру ў Літве:** Пісьмо атрымалі, што будзем магчы вышлем.

**Мік. Зас.:** Вершы атрымалі, дзякуем, будзем карыстаць. „Шлях Моладзі" праз увесь час высылаем Вам акуратна, просім дамагацца на пошце. Што да „канцоў" то пакуль-што на жаль ня будзем магчы іх сабраць. Прывітаньне!

**С. Я.:** Вершы слабаватыя. Перад усім яны за доўгія, ня вытрыманы у іх разьмер, кульгае так-жа мова. Трэба старацца лепш апрацоўваць.

**Чышку, Юшкевічу і Хітраму:** Высылаем і чакаем на грошы.

**І. М.:** Карэспандэнцыю друкуем і просім пісаць часьцей.



*„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*
**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**
„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар каортатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.
Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.